# Селянская Доля

ВЫДАНЬНЕ НЕ ПЕРЫАДЫЧНАЕ

| № 1. | чэрвень 1921. | год I. |
|---|---|---|

## Селяне!

**Чытайце і пашырайце вашу селянскую часопісь!**

**Прачытаўшы перадавайце другім!**

**Апавядайце суседзям!**

**Усьведамляйце адсталых!**



Чэрвень 1921 г.

Выпускаючы ў сьвет першы нумар нашай часопісі „СЕЛЯНСКАЯ ДОЛЯ“ мы хочамо паведаміць нашых паважаных чытачоў аб тым, хто мы, чаго мы дамагаемся і да чаго будземо заклікаць беларускае працоўнае селянство.

Мы — сыны мужыцкія, дзеці многапакутнай Беларусі. Мы добра разумеем гаротную долю нашага працоўнага селянства, бо разам з ім жывём і церпім. Мы разумеім яго патрэбнасьці, яго гора і бяду — бо гэта ёсьць і наша гора і наша бяда. Горкая нядоля селянства — ёсьць нашая нядоля і мы, пакольк ў нас хопіць сілы і разуменьня, будзем старацца вытлумачыць нашаму брату селяніну, якім спосабам магчыма палепшыць цяжкое жыцьцё, як выбіцца з вечнай бяды і беспатольнай ды.

Мы дамагаемся, каб уся зямля была перададзена працоўнаму селянству і каб сам беларускі народ быў гаспадаром у сваім родным краю. А дзеля гэтага, што Беларусь — гэта ёсьць край селянскі (90% усіх жыхароў Беларусі складае працоўнае селянство), то воля селянства павінна быць воляй большасьці ўсей люднасьці Беларусі. Працоўнае селянство ёсьць магутная сіла, але тагды толькі, калі яно будзе добра зарганізавана.

Мы і дамагаемся, дзеля гэтага, каб усё беларускае працоўнае селянство было моцна арганізавана у „Селянскую Сувязь“. Гэтакія селянскія сувязі павінны быць пазакладаны па ўсіх вёсках, валасьцёх і паветах.

Мы будзем заклікаць беларускае працоўнае селянство, каб разам адзінай згоднай „грамадой працоўных людзёў“ сказаць нашае слова праўды. А праўда наша вось у чым: да таго часу ў нашым родным краю ня будзе ні шчасьця, ні волі, ні лепшай долі, пакуль гаспадарыць тут будзе лапчывы польскі пан, ды бязглуздая шляхта. Мы ня хочамо, каб яны самапраўна ў нас гаспадарылі, ня трэба нам іхніх парадкаў. У нашым краі лад новага жыцьця ствараць мы будзем самі і ў нас на гэта даволі ёсьць сілаў.

Мы будзем усьведамляць беларускае працоўнае селянство аб яго правох на родную мову і на разьвіцьцё роднай культуры.

Мы будзем заклікаць усіх лепшых сыноў Беларусі, ўсю сьвядомую інтэлігэнцыю, дапамагчы працоўнаму селянству ў яго змаганьні за лепшую долю.

Усіх, у каго б'ецца гарачае сэрца і хто шчыра кахае свой родны край, хто не прадажнае мае сумленьне і хто хоча працаваць на карысьць высвабаджэньня Беларусі з пад польска-панскага гнёту, — усіх шчырых сыноў нашае бацькаўшчыны мы заклікаемо стаць у рады змаганьнікаў за праўду і справядлівасьць, за сьветлы ідэал незалежнасьці, бо тагды толькі працоўнае селянство здабудзе сабе усе правы на зямлю, на хлеб, на вольную працу і шчасьлівае жыцьцё.

# Нехай жыве вольная незалежная Беларусь.

Чацьвёрты ўжо год настаў з таго часу, як беларускія селяне з'ехаўшыся у Менск на Вялікі Народны Збор — Першы Ўсебеларускі З'езд, пастанавілі, каб наша старонка была вольнай народнай рэспублікай. Гэта было 5 — 17 сьнежня 1917 г. На З'езьдзе была выбрана Рада З'езду, якая папоўніўшы свой склад прэдстаўнікамі нацыанальных меншасьцяў, земскіх і гарадзкіх самаўрадаў, прыняла назову „Рады Беларускай Народнай Рэспублікі“, а 25 сакавіка 1918 г. Устаўной Граматай абвясьціла, што Беларусь ёсьць незалежная ад нікога дзержава:

Вось што сказана у гэтай Устаўной Грамаце:

„Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца вольнай незалежнай дзержавай.

„На моцы гэтага трацяць сілу ўсе дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь мір у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ дзелючы зямлю яго на часьці.

„Абвешчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Рада спакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу у поўнай меры здзейсьніць яго нацыянально-дзержаўныя ідэалы“.

А ў канцы сказана, што Рада Рэспублікі падцьверджае Устаўную Грамату да народаў Беларусі ад 9-га сакавіка таго-ж самага году, у якой сказана што:

...У рубяжы Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, безумоўная вольнасьць сумленьня, незачепнасьць асобы і памешканьня, а земля перадаецца бяз выкупу тым, хто сам на ей працуець.

Гэтакія былі паложаны ідэі ў аснову дзержаўнага будаўніцтва Беларусі.

Быў выбраны і Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, было арганізавана беларускае народна-рэспубліканскае войска. Здавалася, што блізка ўжо дзень шчасьця і волі для нашай бацькаўшчыны.

Аж не, злыя ворагі, карыстаючыся часовай перавагай сваіх збройных сілаў, напалі на родны наш край, паняволілі народ і ў моры крыві затапілі справядлівыя дамаганьня працоўнага селянства.

З краю ў край прыхадзілі к нам розныя акупанты, сілай штыка і кулямета устанаўлялі тут свае парадкі.

Праз тры гады дыміўся наш край ад пралітай на ім людзкой крыві, праз тры гады паліліся вёскі, грабавалася народнае дабро, руйнаваліся гарады.

Чужацкія наезьнікі прышоўшы ў наш край адно толькі рабілі — стараліся як найбольш аграбаваць наш народ, астаўляючы пасьля сябе голад, пошасьць ды руіны.

Зусім згалеў наш селянін земляроб. Жабраком бяздомным зрабілі яго акупанты.

Змучаны і прыгнецены беларускі селянін, як праваслаўны, так каталік, з вялікай радасьцю віталі польскае войска, калі яно першы раз прышло на Беларусь. Шмат пакладалі надзеяў на пана Пілсудзкага, які тагды казаў, што ён дасьць волю беларускаму і літоўскаму народу аж заместа волі, паншчыну устанавіў.

Надзеяліся тагды на Пілсудзкага і шмат хто з беларускіх дзеячоў, паверылі ў праўдзівасьць яго слоў, бо, ведама, лічылі яго усё-ж такі парадачным чалавекам, аж пасьля усе пераканаліся, што Пілсудзкі вялікі круцель — дый толькі. Ён казаў адно, а рабіў зусім што іншае.

У Менску, напрыклад, калі адбылася ў сьнежні 1919 г. Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі пры учасьці прэдстаўнікоў ад валасных ды павятовых беларускіх радаў, і калі Сэсія Рады Б. Н. Р. пастанавіла, што і на далей моцна стаіць за незалежнасьць Беларусі — гэта не ўспадабалася польскім акупантам. Начальнік Менскага вокругу Рачкевіч, спаўняючы волю пана Пілсудзкага, як начальніка польскай дзержавы і як галоўнага камандуючага польскімі акупацыйнымі войскамі, заарыштаваў Прэзыдыум Рады Рэспублікі і пасадзіў у менскую турму за „незаконны сход“.

Быў заарыштаваны і пасаджаны ў турму Урад Беларускай Народнай Рэспублікі.

Шмат было заарыштавана беларускіх дзеячоў, а найбольш беларускіх вучыцялеў — усе турмы перапоўніліся беларускім селянствам. А як іх білі і катавалі там, як голадам марылі... — усё за тое, што дамагаліся незалежнасьці сваей бацькаўшчыны. Пілсудзкі на славах казаў аб волі, роўнасьці, а ў думцы меў, каб прылучыць Беларусь да панска-шляхэцкай Польшчы, каб у дыме пажараў задушыць наш беларускі высвабадзіцельна-адраджэнскі рух.

Але Бог не целя — увідзіць круцеля. Прыйдзе час, а гэты час ужо блізка, калі ўсё пойдзе інакш.

Нехай сабе цяпер цешацца польскія паны з часовай перамогі над нашым народам, нехай спраўляюць свой п'яны баль, але нехай ведаюць гэтыя крывавыя каты: — не задушыць ім гэтай векавечнай праўды — „жыў беларус і будзе жыць“.

Раз беларускі народ ужо добра усьвядоміў сабе, хто яго прыяцель, а хто вораг, раз выступіў на змаганьне з польскімі акупантамі за незалежнасьць сваей бацькаўшчыны -- ніякімі турмамі абозамі для інтэрнаваных, ды масавымі разстрэламі не задушыць ім беларускага руху. Ня сёньніка, дык заўтра, а здабудзе сабе волю беларускі народ!

Ды-й ці-ж можна прымусіць, каб перастала сьвяціць яснае сонца на небі? Не, ніхто ня ўсілах гэтага зрабіць. Так, ніхто не мае гэтулькі сілаў, каб спыніць імкненьне беларускага народу да волі і незалежнасьці. Праўда на нашай старане, апошняе слова належыць нам — мы будзем судзьдзямі іх.

Але ці ёсьць цяперака беларускі урад? Гдзе ён?

Так, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі ні на адзін мамэнт не спыніў сваей дзеяльнасьці. Ён моцна трымае сьцяг незалежнасьці і непадзельнасьці роднага краю.

Прабраўшыся за межы польскай няволі, наш урад заключыў дагавор з Літоўскай Рэспублікай і перад усім сьветам бароніць правы беларускага народу на вольнае самаазначэньня.

Аб усіх зьдзеках і гвалтах польскіх акупантаў над беларускім народам наш урад сабірае падробныя весткі, каб пасьля з дакумэнтамі ў руках асудзіць за гэта. І ніякага тады ім ня будзе апраўданьня. За ўсе убыткі, што прычынілі яны нашаму селянству, яны павінны будуць заплаціць. Яны павінны будуць заплаціць за папаленыя будынкі, за рэквізыцыі, за награбованае дабро, а так-сама і за бязвінна пралітую кроў. Яны павінны будуць забяспечыць усіх удоваў і сіротаў бязвінна разстраляных ды ў турмах і лагерох замучаных. А польскія чыноўнікі-цывільныя, ці то вайсковыя, што так жорстка і не палюдзку пасгупаюць з нашым народам — усе яны павінны панясьці належную кару.

Дык вось, браты, селяне, ў чым тут справа. Ня трэба толькі безрадна апускаць нам рук і ўсё будзе добра. Трэба арганізоўвацца, трэба гарнуцца нам адзін да аднаго. Бо ўся наша сіла толькі ў еднасьці нашай.

А хто ўразумеў аб чым тут ідзе рэч — нехай другіх усьведамляе, нехай тлумачыць адсталым і тым, хто слабы духам, хто не мае веры ў лепшую долю. І чым лепш мы будзем зарганізаваны, чым больш у нас будзе сьвядомых грамадзян — тым хутчэй мы прыдзем к нашай сьветлай мэце.

Нехай ад хаты да хаты праняcецца адзін магутны поклік:

*Даволі нам цярпець зьдзекі і насільства польскіх акупантау — арганізуймося! Усе пад сьцяг за незалежнасьць Беларусі! Рыхтуйцеся на Вяліκі Усебеларускі Збор.*

**Паддубіа.**

# Чаго прыйшлі лапчывыя польскія паны на Беларусь.

Вясной 1919 г. пад галоўным камандаваньнем пана Пілсудзкага прыйшлі на Беларусь польскія войскі. Уселяк думалі ды разважалі нашыя людцы. Хто як — адны казалі, што прыйшлі таму, каб бараніць нас ад бальшавіцкіх наезьнікаў з ўсходу, каб даць волю беларускаму селянству; іншыя казалі — каб дапамагчы беларусам збудаваць сваю незалежную дзержаву. Адным словам, шмат было розных чутак, а ўзапраўды мала хто ведаў прычыну, чаму прыйшлі к нам гэтыя няпрошаныя госьці.

А яны сабе прыйшлі ды пачалі па свойму гаспадарыць, пачалі наводзіць свае панскія парадкі.

Перш за ўсё ў Горадні яны разаружылі беларускі полк і заарыштавалі шмат выдатных беларускіх дзеячоў. Паразганялі ўсе беларускія установы, пазакрывалі школы.

І як бы там прыхільна з першага пачатку і не спатыкаў наш народ польскіх акупантаў — аж тут крыху настаражыўся. Пачаў прыслухоўвацца, пачаў сёе-тое меркаваць.

— Тут ёсьць нейкая загадка — гутараць памеж сабой суседзі. Чаму гэта яны ня любяць так беларусаў? За што? Што благога ім зрабілі беларусы?

Аж як панаехала амаль што ня ў кожную вёску жандармаў, як пачалі яны біць ды розным спосабам зьдзекавацца над нашым селянствам — от, проста і ратунку табе ніякага німа. Б'юць, як той казаў, і плакаць не даюць.

А тут яшчэ паны ў маёнтках паявіліся пачалі спаганяць старыя даўгі, пачалі выдумляць розныя глупствы, каб толькі хоць у чым нібудзь абвінаваціць нашага брата селяніна.

А куды пойдзеш з жальбой — дзе знойдзеш справядлівасьць, калі ўсе тутэйшыя паны - землеўласьнікі парабіліся начальнікамі. Ен цябе абвінавачывае, ён-жа цябе і судзіць. Вось якія завяліся ў нашым краю парадкі з прыходам палякаў.

Пачалі вертацца з Расіі нашыя бежанцы, нічагусенька яны не знайшлі — адны акопы ды руіны пераплеценыя калючым дротам. Трэба як небудзь пабудавацца, завесьці гаспадарку — дык дзе там! Скуль дастаць лесу на будоўлю, калі пан не дае. А казённы лес так-сама перайшоў пад загад паноў. Куды ня кінешся — бяз польскага пана не абыйсьціся. Ён стаў поўным гаспадаром у нашым краю. Што хоча, то і робіць, а ты, беларускі селянін, ані пікнуць ня сьмей. А скажаш слова — зараз у турму пасадзюць. Розак дадуць, а не, то і ў лагер адашлюць. І сядзі там колькі часу без уселякага суду і следства.

— Што-ж за ліха такое, сустракалі іх па людзку, як добрых сумленных людзёў, як збаўцаў ад уселякага безладзьдзя, а тут на табе — горш яшчэ прыціснулі, чымся пры маскоўскіх царох, — ня мог надзівіцца наш селянін.—Мы-ж ім нічога благога не зрабілі і раптам такі зьдзек і самаўпраўства. За што? за што яны нас мучаюць? Чаго ім ад нас трэба, каб яны жыцьця ня ведалі...

Аж па троху нашы селяне пачалі разумець, чаго ад іх жадаюць польскія паны. Ім усенька гэта растлумачыла „Страж Крэсова“. Аказалася, што яны хочуць, каб беларусы самахвоць далучыліся да Польшчы. Вось так лоўка прымусіць, каб народ нібы сам згадзіўся на гэтае далучэньне.

От-жа пачалі склікаць „соймы“, пачалі нават дзе-не-дзе і мукой амэрыканскай ды салам заманіваць селян на гэтыя „соймы“, каб толькі галасавалі за далучэньне. Нічога не выходзе. На „сойме“ хоць сперша часамі селяне і галасавалі пад прымусам за далучэньне, але прыйшоўшы ў сваю вёску і добра разважыўшы з суседзямі рашылі, што далучацца ніўякім разе нельга. А былі і такія выпадкі, калі і на „сойме“ нават, як гэта было ў Горадні, Баранавічах, у Вільні, Менску, Лідзе і г. д., то селяне і галасаваць адмовіліся. — „Ня хочамо — кажуць — далучацца да панскае Польшчы. Вось што хочыця, тое і рабіце з намі, а такі свайго голасу не дамо за далучэньне да Польшчы. Бо мы хочамо, каб была незалежная Беларусь. Мы беларусы“. — Так казалі ня толькі праваслаўныя, а і каталікі беларусы.

І на якія толькі хітрасьці польскія паны не пускаліся, каб загнаць у казіны рог нашага селяніна. Шмат ім у гэтым памагалі і польскія ксяндзы. Але ёсьць і беларускія ксяндзы, якія моцна стаяць за свой народ і за незалежнасьць роднага краю.

Польскія паны ўжо, здаецца, ўсе спосабы перапрабавалі, каб ашукаць нашых селян—нічога ня выйшла. Тагды яны проста ў Варшаўскім Сойме пастанавілі далучыць Беларусь да Польшчы і выдалі закон аб надзяленьні беларускай селянскай зямлёй, пераважна бежанскай, польскіх жаўнераў, а найбольш сваіх верных служак-жандараў, ды шпікоў.

Тут ужо зусім стала ясна і відавочна, чаго прыйшлі польскія лапчывыя паны на беларусь. Знакам тым, каб зямлю

ад нашых селян адабраць а нас зрабіць сваімі нявольнікамі, парабкамі... Нашае селянства яны хочуць зрабіць звычайным быдлам працоўным і вярнуць даўноміну-лыя часы паншчыны.

Цяпер ані якай загадкі больш ужо німа. Усё стала цяпер ясным як Божы дзень.

Беларускае селянства страшэнна зьбяднела. Гаспадарка зруйнавана. Німа ні каня, ні калёс, ні атос, німа чым і поля абсеяць — усё паадбіралі польскія паны. Народ ад голаду похніць, пашыраецца розная пошасьць: тыфус, воспа... Цэлыя вёскі выміраюць і німа, нават, каму хаваць памёршых. Тысячы селян мучаюцца і паміраюць у польскіх турмах ды лагерох. Наш край становіцца пустыняй голаду і сьмерці...

А польскія паны ад радасьці толькі рукі паціраюць. Ім прыемна бачыць страшныя мукі, чуць стогны ўміраючых беларускіх селян. Яны сьвядома гэта робяць. Яны так сабе разважаюць: ратуючыся ад сьмерці непакорны беларускі селянін стане лагаднейшым і прыйдзе да нас прасіць ласкі. Вось мы тагды яго і прыбяром у свае рукі. Ўжо ніколі тагды ад нас ён ня выйдзе, а хто памрэ з голаду — нехай сабе памірае больш мейсца застанецца для колёнізацыі.

Вы чуеце, браты селяне? Польскія паны хочуць, каб мы, беларускія селяне, вымiралі як тыя мухі і каб пасьля нашай спрадвеку зямлёй, нашым прадзедаўскім дабром надзяліць сваіх польскіх колёністаў. Вы чуеце гэта, селяне земляробы, якую злую долю гатовяць нам польскія паны? На нашых трупах, на трупах нашых дзетак польскія паны хочуць збудаваць сваю вялікую Польшчу.

Якое злачынства, якое нячуванае праступленьне робяць польскія паны пад камандай Язэпа Пілсудзкага, гэтага Каіна дваццатага сталецьця.

Лапчывыя польскія паны ось нібы той упыр узселі на карак працоўнага селянства і хочуць высcаць з яго ўсю кроў.

Але ня будзе гэтага.

Нехай ведаюць польскія паны — яны толькі часова з'яўляюцца пераможцамі над нашым народам.

Земля наша і заўседы будзе нашай. Нехай не спадзяюцца, што мы пойдземо прасіць у іх панскай ласкі. Ражон ім у бок, а не пакора наша! Нехай ведаюць, што беларускі селянін вельмі ўпарты. Ён ня гэтулькі вынес праз увесь час сваей гісторыі — няўжо-ж ён цяпер здасца на ласку і самаупаўства польскіх прагавітых паноў? Не, ніколі гэтага ня будзе Дый часы цяпер ужо ня тыя.

Адно мы скажамо ўсім польскім панам: цяпер мы добра ведаем, хто вы такія. Цяпер мы ведаем, куды ідзе ваш шлях. Але наш селянскі шлях ёсьць зусім іншы. Наш шлях вядзе да незалежнасьці вольнай Беларусі, з гэтага шляху мы ніколі ня зыйдзем. І не дамося ў вашу польска-панскую няволю.

А ўжо-ж, не дамося. Чуеце?!... — **не дамося!**

*Т. Глеба.*

# ЗЯМЕЛЬНАЯ СПРАВА

## Утварэньне на Беларусі новае польскае вайсковае шляхты.

(Аб зямельным польскім законе ад 17 сьнежня 1921 г.)

Польская буржуазная шляхта, з якой пераважна зложаны і польскі сэйм і польскі урад, добра аблічыла: каб падзяліць зямлёй сваіх польскіх беззямельных і малазямельных селян (і ў першы чарод беззямельных жаўнераў) патрэбна было-б адняць усе землі ад паноў-абшарнікаў у Польшчы, г. знача, знішчыць усю вяліказямельную шляхту і перш-на-перш саміх сябе.

Зусім зразумела, што польскія паны пачалі шукаць іншага выхаду — і ўрэшце знайшлі.

Аружнай сілай захапілі беларускія землі — Віленшчыну і Горадзеншчыну і пастанавілі, што на гэтыя захопленыя землі магчыма будзе выселіць сваіх беззямельнікаў, а праз гэта захаваць сваю панскую зямельную ўласнасьць у Польшчы.

І ваўкі — польскія землеўласнікі будуць сыты, і авечкі — беззямельныя польскія селяне атрымаюць зямлю за кошт беларускіх селян.

А каб перад усім сьветам апраўдаць гэты грабеж беларускага народу, палякі ўсюды і ўсім крычаць: „Віленшчына і Горадзеншчына — гэта ёсьць польскія землі і мы маем „права“ распараджацца гэтымі землямі“.

Каб умацаваць якім-небудзь чынам сваё грабежнае „права“ палякі выдалі „Закон 17 сьнежня 1921 г.“

Выдаючы гэты „закон“ палякі праз яго ратуюць зямельную ўласнасьць сваей шляхты ў самой Польшчы, — гэта першае; заховываюць маёнткі польскае шляхты ў Беларусі — гэта другое; утвараюць на Беларусі шмат новай польскай зямельнай буржуазіі, з якой з часам мастворацца новыя паны, коштам прыгнечаньня і эксплуатацыі нашых беларускіх селян.

Цяперака зьвернемся да самага „закону 17 сьнежня“.

Другі пункт гэтага „закону“ абвешчае: На моцы гэтага закону магчыма атрымаць ва ўласнасьць дзяржавы, прыватныя землі:

а) Усю, бяз вынятку, калі яны пакінуты ўласнікамі і калі ўласнікі або асобы, маючыя іх права, ня вернуцца на сваю зямлю (к аседласьці) не пазьней 1 красавіка 1921 году.

Хто з зямельных ўласьнікаў Віленшчыны і Горадзеншчыны пакінуў сваю зямлю? Селяне - уцекачы, выехаўшыя ў Расію.

От іх зямлю і забірае „ва ўласнасьць“ польская дзяржава.

Каму-ж аддадуць гэтыя землі?

Згодна 4-му пункту закона, гэтыя зямлі „назначаюцца пад ваенную колёнізацыю“, г. знача — будуць аддадзены польскім (панам) жаўнерам.

А калі гаспадар зямлі вернецца дамоў раней 1 красавіка 1921 г. што тады?

Аб гэтым ёсьць асобная 4-ая рэзалюцыя польскага сэйму у якой сказана: „каб урад аддаваў вертаючымся раней 1 красавіка 1921 г. ўласнікам іх ўласную зямлю, калі яна ня будзе яшчэ падзелена жаўнерам“.

Ну добра, а калі ўжо „ужо падзелена жаўнерам“, тады што?

І на гэта ёсьць адказ у хітрым законе. Аб гэтым у пункце 5-м сказана: „Уласнікі, якія вернуцца на сваю гаспадарку раней 1 красавіка 1921 г. павінны вярнуць усе расходы і страты, зробленныя новапрыбыўшым (г. з. польскім жаўнерам) дзеля апрацоўкі зямлі і за будынкі на ей.

От яна польская грабежная палітыка. Нават блішчыць злавешчым блескам, як той разбойнічы нож, якім забіваюць у соўнечны дзень крывавыя бандыты.

Мала таго, што забіваюць цябе, дык на — яшчэ палюбуйся, як пекна блішчыць нож, якім цябе зарэжуць.

Мала таго, што польскі ўрад забірае у беларусаў-уцекачоў зямлю [1] не маючы на гэта ніякога права — аддае польскім жаўнерам, дык яшчэ абавязывае зруйнованных і ўсё страіўшых галодных уцекачоў — калі яны вернуцца на сваю ўласную зямлю — плаціць польскім жаўнерам за незаконнае карыстаньне зямлёй, плаціць за будынкі...

Што-ж гэта за небывалы зьдзек над беларускімі селянамі. Мала таго, што вайна выгнала іх з роднай зямлі, мала таго, што усе яны зрабіліся жабракамі, мала таго, што усе іх прасьледуюць і ганяюць, дык вось польскі ўрад яшчэ адбіраець апошнюю надзею, адбіраець зямлю і надзеляець ею сваіх польскіх жаўнераў.

Закон 17 сьнежня, згодна 6-му пункту, яўляецца абавязковым у гэтых беларускіх паветах:

1) Бэрасьцейскім, 2) Пружанскім, 3) Воўкавыскім, 4) Слонімскім, 5) Навагрудзкім, 6) Баранавіцкім, 7) Вялейскім, 8) Дзісненскім, 9) Несьвіжскім, 10) Пінскім, 11) Горадзенскім і 12) Лідзкім.

У самую запраўдную Беларусь пхаюць палякі сваіх жаўнераў, даюць ім па 45 маргоў беларускай зямлі, даюць на будову 80 куб. мэтраў беларускага лесу, даюць бесплатна жывёлу і сельска-гаспадарскія прылады.

А беларусы-ўцекачы вертаючыся на родную зямлю — ня толькі не атрымліваюць ніякай дапамогі, а застаюцца без зямлі і хаты.

А атрымаць назад сваю ўласную зямлю — плаці грошы — польскаму жаўнеру. Німа грошы — прасіся да яго ў парабкі, каб ня згінуць з голаду.

Толькі закляты сьмяртэльны вораг— беларускага селянства — толькі шляхэтна — панскі сэйм Рэчы Паспалітай мог выдумаць і выдаць закон 17 сьнежня 1921 г.

Селяне беларускія! Не давайце крыўдзіць сябе і асабліва сваіх братоў вертаючыхся на Бацькаўшчыну.

Адважна выступайце проці грабежа беларускай зямлі. Польскі сэйм не мае права адбіраць вашу ўласную зямлю і аддаваць яе жаўнерам.

Усе на змаганьне, на барацьбу з польскім гвалтам!

**І. К.**

# Калі і хто дасьць беларускім селянам зямлю.

Кожнаму з беларускіх селян, які хоць і часова, але к вялікаму яго нешчасьцю апынуўся пад польскай акупацыяй, кожнаму такому селяніну часамі, а можа і што дзень прыходзіць у галаву гэткае пытаньне: — „Калі-ж прыйдзе час, што ўспомняць пра цяжкую нашу долю і дадуць нам больш зямлі.

Ужо чуваць, што у ва ўсходняй Беларусі — бальшавікі надзялілі селян зямлёй, ужо ведаюць усе, што ў Літве так сама урад надзеляе беззямельных літоўскіх селян, адбіраючы абшары зямлі ад паноў...

А польскі ўрад — пакуль што для селян і зрабіў, што напхаў німа ведама пашто свае войскі ў нашу старонку, панасылаў жандараў у вёскі, пашлі рэквізыцыі, вайсковыя паборы, мабілізацыі і іншая ўселякая трасца, якая нам працоўным селянам так дапамагла, як кашаль хваробе і так патрэбна як другі хвост сабацы...

Як былі вялізарныя маёнткі польскіх паноў, так і засталіся, як былі мы з сваімі вузенькімі шнурочкамі благой зямлі — так і засталіся і па гэты дзень.

Польскі ўрад. яшчэ а ні разу, а ні слоўкам не абмовіўся аб паляпшэньні селянскай долі нашай... Відаць польскі ўрад з гэтых самых паноў - абшірнікаў зложаны і ім усё роўна, хоць падыхай мы селяне з голаду...

Праўда, сьвятая праўда ў думках такіх селянскіх.

Не дзеля таго польскі ўрад захапліваў беларускія землі, каб гвалтам прылучыўшы іх да Польшчы, палепшыць жыцьцё беларускага селянства, зусім не дзеля гэтага.

Польскі ўрад зложаны з пануючай зямельнай буржуазіі, з ясновельможных магнатаў-абшарнікаў, уладаючых заходняй Беларусьсю (у Горадзеншчыне і Віленшчыне) вялікімі маёнткамі (напрыклад, пан міністр Сапега, ў якога ёсьць больш як 50 маёнткаў), — гэты панскі ўрад мае ось якія мэты:

Займаючы беларускія землі, польскі ўрад хацеў уратаваць польскія маёнткі.

Ад каго-ж ратаваць? Ведама, што ад беларускіх селян, бо гэтае селянства ўжо даўно-б атрымала зямлю польскіх паноў праз літоўскі ўрад, або праз свой беларускі ўрад, які яшчэ у 1918 гаду ў Менску абвясьціў, што ўся зямля бяз выкупу адбіраецца ад польскіх паноў і дзеліцца паміж працоўным селянствам. Толькі палякі аружнаю сілай не далі беларускаму ўраду аблегчыць селянскую долю.

Але тое што абецаў беларускі ўрад усё роўна станецца, як толькі Беларусь будзе незалежнай і пазбавіцца польскай акупацыі.

Гэту ганебную акупацыю заходняй Беларусі, польскі ўрад зрабіў яшчэ таму, каб з часам апалячыць беларускае селянства і прымусіўшы яго далучацца да Польшчы далей ужо сьмела зрабіць яго быдлам працоўным для польскіх паноў.

— „Жарты...“—скажа на гэта больш адважны селянін-беларус.

— „Нас, беларусоў, са ўсіх бакоў кідаліся праглынуць, але мы не дамося, мы самі для панскай ласкі ў горла ня ўскочым... Прайшлі тыя праклятыя часы паншчыны...“

Не жарты. Палядзіце, што здалелі зрабіць польскія паны праз свой урад — са сваім селянствам польскім.

Два гады ў Польшчы селяне дамагаюцца, каб урад іхні урэзаў крыху (не гаворучы нават усю забраць) зямлі ад паноў-абшарнікаў і падзяліў паміж беззямельнымі і малазямельнымі селянамі.

І што, ўрэшце, мы бачым? Два гады цягнецца гэта справа, шмат разоў разглядалі яе у варшаўскім сойме... нават было вырашана, як падпаціснулі селянскія дэпутаты, што трэба такі урэзаць крыху зямлі ад паноў, але ўрад польскі сам складзены з абшарнікаў—не захацеў сам свае маёнткі урэзываць і схаваў усю гэту зямельную справу — як кажуць — „пад сукно“.

А польскі беззямельны і малазямельны селянін, як галадаваў, так галадуець, як цалаваў панскія ручкі так і па сёньняшні дзень цалуе, як быў працоўным быдлам сваяго пана—так і застаўся.

Калі гэтак польскі ўрад „рупіцца“ аб сваіх польскіх селянах, калі польскі ўрад сваіх селян моцна трымаець у быдлячай скуры, дык чаго-ж нам беларусам чакаць ад яго?

Калі польскі ўрад, каб уратаваць маёнткі сваіх паноў, аружнай сілай захопіць беларускія землі і кажа ўсяму сьвету, што не беларускія землі, а польскія, дык беларускія селяне могуць быць пэўнымі, што гэткі урад усадзіць беларускае селянства ў быдлячую скуру і яшчэ добрага кія дасьць сваім абшарнікам, каб моцна і шчыра падганялі „беларускую скацінку“.

Польскі ўрад замест таго, каб беларускаму селянству памагчы, прыдумаў на яго хітрую згубу: выдаў новы закон, па якім раздаюцца польскім жаўнерам тыя беларускія землі, на якія не вярнуліся уцекачы-беларусы.

А гэтых уцекачоў-беларусаў, калі яны вертаюцца ў родную старонку, польскі ўрад затрымлівае на граніцы і сусім не пушчае.

Мала гэтага. Польскі ўрад сваім жаўнерам ня толькі аддае беларускую зямлю, але кожнаму адпускае беларускі лес на адбудову хаты і двара, выдае грошы на пакупку патрэбнай у гаспадарцы жывёлы і рожных сельска-гаспадарскіх прылад.

А што-ж даў польскі ўрад тым уцекачом-беларусам, якія выцярпеўшы столькі гора ў чужой старонцы і страціўшы ўсю маетнасьць сваю вертаюцца дамоў? Нічога не даў і не дасьць.

Вертаецца беларус у сваю папаленую вёску... ні прытулку яго сям'і, ні хлеба, ні лесу для адбудовы, ні скаціны, ні сахі, ні грашэй, каб купіць усё патрэбнае... і ніякай ні адкаго дапамогі.

Глытаючы сьлёзы і сашчаміўшы зубы ідзець бедняк беларус прасіць літасьці польскага пана, каб узяў яго ў парабкі, каб хоць сябе і сям'ю сваю уратаваць ад галоднай сьмерці.

Ці польскі ўрад ведаець аб гэтым?

Ведаець і цешыцца з гэтых цярпеньняў беларускага селянства, бо бачыць як яно само улазіць у панскі хамут і яшчэ дзякуець панам.

Чаго-ж нам беларусам чакаць лепшага ад чужога нам польскага ураду? Ён сваіх сыноў, сваіх польскіх селян трымаець у беднасьці, а нас пасынкаў дык, здаецца, знішчыў бы са сьвету.

Толькі свой родны беларускі ўрад палепшыць долю беларускага селяніна, толькі ён аддасьць зямлю працоўнаму селянству і дапаможа уцекачам пабудавацца і палепшыць сваю гаспадарку.

Толькі ў сваей незалежнай Беларусі — селяне будуць гаспадарам усей зямлі.

Усе селяне павінны трымацца аднэй думкі:

Польская акупацыя беларускіх зямель тым хутчэй скончыцца, чым больш мы селяне будзем вымагаць гэтага канца.

Польскі ўрад — чужацкі нам ўрад, жадаючы не паляпшэньня, але пагаршэньня селянскай долі.

Польскі ўрад — гэта злыдная мачаха для беларускіх селян.

І пакуль будзе панаваць над Беларусьсю польскі ўрад, мы беларусы ня толькі не атрымаем больш зямлі, а яшчэ і нашу аддадуць польскім жаўнерам.

Ня хочамо польскай акупацыі, ня хочамо прылучацца да Польшчы, ня хочамо польскага ўраду.

А жадаемо і чакаемо і будземо змагацца за сваю незалежную Беларусь і за свой родны беларускі ўрад, бо толькі ён адзін дасьць нам зямлю і палепшыць селянскую долю.

**І. Корэнь.**

# СЕЛЯНСКАЯ ДОЛЯ

## ПАЎЛІНКА.

I.

Гэй, браты, маўчаць даволі
аб тэй горкай нашай долі,
што спаткала нас!
Мы ўсе крыўды тут падлічым
і народ увесь заклічым:

„Змагайся — прабіў ужо час!“

II.

Сёмы год, як церпіць
Беларусь нешчасьце:

Абвілі яе дротам калючым,
на грудзёх зямлі — маткі нашай
долы — ямы капалі,
акопамі акружалі
і білі ў грудзь яе...
З цяжкіх гармат білі,
раны кулямі тварылі,
пякучыя, балючыя раны...

Сколькі-ж людцаў лягло,
сколькі трупаў згніло
па тых ямах — акопах,
у магілах зямелькі сырой.
Напілася зямля
крыві досыта,
кроў ракою усюды лілася...

III.

Ўсьлед за бітвай страшной
пажарышча ішло...
Запылалі агнём
усе хатанькі,
ўсё дабро, ўвесь пажытак людзкі
цяжкай працай селянскай здабыты —
ўсё пайшло у ахвяру
разшалелай стыхіі — агню.

І ў тым мейсцы, гдзе перш
залатое жытцо калыхалась,
гдзе вясёлыя дзеткі сьмеялісь,
васількі сабе рвалі
і ў вяночкі сплятали, —
там крапіва й палын парасьлі
і дзе-не-дзе толькі комін стырчыць —
гэты помнік людзкога нешчасьця...

IV.

А ў дабавак таго,
ўсіх людзей гналі вон
з роднай хатанькі з роднай вёсачкі
і пад градам куль, і пад дымам хат
прымушалі ісьці у старонку чужую,
на бяздольле і зьдзек,
ды на холад і сьпек
у далёку вандроўку цяжкую.

І пашоў наш народ
са сьлязой у ваччу,
з страшнай больлю ў грудзёх,
з дзікім крыкам ў вушох...
Сьмерць за ім — сьмерць прад ім...
І усеяў магілай ўсю дарожаньку,
ўсю дарожаньку цярністую,
як празвалі цяпер — ту крыжовую.

V.

Быццам сьціхла ўжо
вайна жорсткая,
праняслася ўжо
бура страшная
Ужо вертаецца
селянін дамоў
на папелішча
сваё роднае.

Ой, ён выцярпеў шмат...
Ня злічыць нам тых страт,
Не злічыць нам ўсіх крыўд,
сколькі вынес праз гэты ён час.
Ці-ж цаной дарагой не купіў ён сабе
права вольна ўздыхнуць,
у спакоі і волі спачыць,
працаваць для сябе і для краю свайго?

VI.

Не дапіў ён яшчэ
горкай чары да дна,
не закончыліся
мукі цяжкія...
Пацягнулісь к яму
рукі хціўныя,
лапы страшныя —
польска-панскія...

Ўсе бліжэй і бліжэй
насуваліся,
ўсе хутчэй і лаўчэй
памыкаліся,
каб за горла схваціць,
мужыка прыдушыць,
каб ён пікнуць ня сьмеў,
каб хутчэй ён згібеў.

VII.

Польскі пан...
Гэта вораг наш злы,
Беларусі ён вораг адвечны...
Добра помняць дзяды,
як ў прыгоне былі,
як паны на сябе працаваць застаўлялі
як карміліась іх потам,
на сабак іх менялі
ды зьбівалі да сьмерці для ўцехі сваей.

VIII.

І цяпер, як пранесся той кліч,
кліч да волі сермяжных селян,
як ударыў той звон,
з усіх чутны старон:
„Схамяніся працоўны народзе!
„Бяры сам сабе дар —
„ты цяпер гаспадар
„у старонцы сваей Беларусі!“—

— польскі пан задрыжэў,
дзікай злосьцю ськіпеў...
„Як, хам вольным ўжо хоча зрабіцца?
„Ён і школы жадае?
„ды зямлі не хапае?
„Ці-ж ня можа ўсе гэта спыніцца?!“
Польскі пан задрыжэў,
ва ўсю моц заравеў:
— „НЕ ПОЗВАЛЯМ!!!“

IX.

„НЕ ПОЗВАЛЯМ, каб хам
„сам сабой кіраваў!
„НЕ ПОЗВАЛЯМ, каб шнур
„ён зямлі пашыраў!
„У пакоры для нас
„павінен ён жыць,
„па загаду шляхціца
„ўсё ён мусіць рабіць!
„НЕ ПОЗВАЛЯМ, каб ў школах сваіх
„ў роднай мове вучыўся,
„каб ў касьцёлах, царквах
„па сваему маліўся!
„НЕ ПОЗВАЛЯМ, каб зваў ён сябе
„беларусам!
„Ха—ха—ха!... запяе ён інакш
„пад прымусам.

X.

„Незалежным ён хоча ўжо быць —
„Ці вы чулі аб гэтым панове?
„Вы падумайце добра;
„як мужык сам пачне сабой быць
„у тым краю сваім — Беларусі,
як пачне завадзіць
там парадкі свае, —
„што-ж з маёнткамі будзе тагды?...

„Забярэ ў свае рукі усё,
„а мы з чым-жа тагды застанёмся?
„Як ня схочам мы з ім працаваць,
„побач з ім і араць і касіць, —
„трэба торбу надзеўшы пайці жабраваць,
„у суседзяў трэ' хлеба прасіць...
„Мы-ж да працы селянскай ня здольны—
„ды-й ня хочамо хамскай работы рабіць.

XI.

„Дык хутчэй-жа паны
„мы паклічам салдат
„з нашай Польшчы шляхэцкай і панскай
„а на сьвет ўвесь дурны
„мы ідзём — скажам так —
„бараніць Беларусь ад наездцаў,
„бальшавіцкую сілу прагонім...
„а змаўчым, што... маёнткі баронім.“

XII.

Вось прыйшоў пан Пілсудзкі
аж у Вільню, у Менск...
за ім хмара паноў:
рэёновых, старостаў
і жандармаў, шпікоў,
„ужэнднікув паньствовых“,
(стада чорных крукоў),
рознай злыбядзі тут...

Пан Пілсудзкі прышоў,
сказаў шмат пекных слоў:
„Беларус і Літвін!
„Мы баронім цябе
„ад наездцы з Масквы,
„ты-ж як хочаш жыві —
„гаспадарам будзь сам;
„памагаць мы ўсьцяж будзем табе“.

„Будзем жыць, як брат з братам
„у згодзе,
„роўны з роўным, з вольным вольны
„на сходзе...“

XIII.

Пан Пілсудзкі, ці ты шчыра казаў
аб свабодзе?
Мусіць не, бо праслыў ты тут катам
ў народзе.

Салаўём ты сьпяваў
да народу, лізун,
за плачыма-ж трымаў
цяжкі путы й бізун...
Гдзе-ж твой гонар той польскі?
Гдзе сумленьне падзеў?
ты, падлыжніку панскі,
страхацьцё на дзяцей.

Не пасьпеў ты сказаць
тэй прамовы сваей —
засьвістаў ўжо бізун
над плачыма селян...
Ўжо жандармы-каты
распраўляліся,
турмы страшныя
запаўняліся.

XIV.

Вярнуліся часы паншчыны —
на прыгон сталі ганяць,
замест платы або хлеба кусок —
бізунамі частаваць:
і старых, і малых,
і хлапцоў, і дзяўчат
не жалеючы біў
польскі пан, польскі кат.

Ці-ж забыўся дзядок,
сівы голубе,
як віталісь з табой
слугі панскія?
Расьцягнулі цябе
сярод вуліцы
побач з ўнукам тваім
і нявесткаю.

На працоўных руках
стаўшы ботамі,
білі цяжка вас
каты лютыя.
А за што, скажы?
Што зрабіў ты ім,
што сівой галавы
не шкадуюць тваей?

XV.

Селянін, гаспадар!
ты цяжкіх мазалеў уладар!
што-ж стаіш ты павесіўшы рукі?
Ці ня чуеш? — скацінка

жалосна рыкае.
Не накорміш чаму?!
Ды чаму не арэш і ня сееш?
Цябе ніўка даўно ўжо чакае...

„...Ўсе чаму і чаму...
„Моцны Божа! Што-ж рабіць я магу?
„Кароўка рыкае,
„бо корму не мае.
„Конік з голаду паў...
„Ўсе дабро пан забраў,
„у вайсковым прышоўшы убраньні,
„і засеяць німаю я чым...“

XVI.

Растуць кветкі, растуць і расьлінкі
у лузі, у полі...
Жывуць дзеткі, жывуць сірацінкі
у цяжанькай долі...
З беларускіх прытулкаў ганяюць
польскія жаўнеры,
на вуліцу іх выкідаюць
і крыўдзяць бяз меры.

Школы нашы закрываюць,
хаўрусныя крамы,
кніжак, газэт не пушчаюць,
каб чыталі „хамы“.

„Кулька в лэб“ — таму, хто будзе
чытаць кніжкі ў роднай мове.
„Кулька в лэб“... вы чулі людзі,
як страшаць панове?

XVII.

А цяпер падыйдзі,
любы браце ты мой,
пад высоку турму
з мураванай сьцяной.
Падыйдзі, паглядзі
і прыслухайся,
што пачуе душа,
твае сэрцайка.

Ты, бацька і маці,
хадзеце за мной...
Вы станьце вось тут,
глядзіце туды:
там, да краты ў вакне
прытуліўшысь хтось сядзіць,
жалосную песьню пяець...

„Матанька, міленькая,родненькая,
„пажалей ты мяне маладзеньку...“

„Моцны Божа!...
„То-ж дачушка мая!...
„А сыночак мой гдзе?
Ціха! — слухай далей:

XVIII.

„Ой ці сьнішь ты, мая мамка,
„сваіх дзетак у турме?
„Ой ці бачыш, родны татка,
„нашы мукі у ва сьне?

„Дротам нас калючым білі,
„ў дзьверах пальцы нам шчамілі,
„костачкі ўсе пакрышылі,
„ўсё дапытываліся...
„Братца майго разстралялі,
„дзявочу чэсьць мне забралі,
„ў ланцугі мяне скавалі
„і ратуначку німа...“

XIX.

Ці-ж ня досыць ужокрыўд
тут мы палічылі?
Ціж ня досыць нашых сьлёз
мы ужо пралілі?
Наастатак, паны ў нас
зямлю адбіраюць
і жандармаў — нашых катаў
ею надзеляюць.

XX.

Дык вось, браце, яку долю
ты цяпер спаткаў...
Вось якую табе волю
Пілсудзкі надаў...
Дык-жа годзі мае браты
цярпець тыя мукі!
Хто жыў-дуж, выйдзі з хаты,
бяры касу ў рукі!

Ўстань, народзе на змаганьне
за волю тваю!
Годзі шляхты панаваньня —
Гайда у Польшч сваю!...

Вон за Буг! аж у Варшаву,
пакуль цэлы косьці.
Не мешайся ў нашу справу,
польскі ягамосьцю!

У нас было-б зусім ціха,
каб ня тыя госьці,
што з усходу і заходу
пруцца к нам чагосьці.
Як прагонім ўсіх чужынцаў
з Беларусі роднай,
Зажывём тагды шчасьліва
ў старонцы свабоднай.

---

# Пад сьцяг!

„Даволі горкіх сьлёз і думак аб нядолі!...
„Жадаю песень я, аб радасьці аб волі,
„Дык песень, песень мне аб радасьці вя-
. . . . . . . . . . . . . [сновай!“...
„Дык сьпевай жэ мне песьню, сьпевай,—
„Што ўваскросьнеш мой краю каханы!“...

(ЦІШКА ГАРТНЫ).

Бадай з прадвечнасьці ціха-ціха плакала Беларусь . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . .

Уздымаюцца, як віхар народы... З гоманам будуюцца многамільённыя дзержавы і з яшчэ большым грукатам руйнуюцца... Як бліскаўкі ў цемры сярод грокату пяруноў з'яўляюцца вялікія ваеводы і вядуць свой народ да перамогі і ўладарнага панаваньня...

З недраў народаў устаюць, сьветлыя як сонца — прарокі, тварцы рэлігіі і асьвечаюць шляхі ў цёмную будучыну...

Ціхім чароўным сьветам зорак зіяюць парадзіўшым іх народам — найсьвядомейшыя пісьменнікі, паэты, красамоўцы...

Весёлай музыкай і песьнямі аздабляюць цяжкую долю свайму народу — натхнёныня песьнятворцы і кампазытары...

А часамі з'яўляюцца моцныя духам і верай ў праўду і роўнасьць і вольнасьць — змагарные людзі... запаляюць пажар і доўга чырвоным агнём гарацць іх ідэі, палохаючы цёмныя сілы і падаючы надзею слабым духам... . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Абросшая векавымі лясамі, патопленая ў бязьмежных балотах, ціха стаяла Беларусь і думала свае лясовыя і балотныя цягучыя думкі...

Налеталі з дзікай Азіі хвалі барбараў, ідучых на захад і тысячы конскіх і людзкіх ног таптали беларускія землі.

З захаду кідаліся хвалі збройных народаў і ляцелі на ўсход — і зноў над Беларусьсю панавалі гвалт і сьмерць.

Многа — многа, надта многа шалёных хваль праняслося над Белай Русьсю, многа крыві і бруду нясьлі яны з сабой, але не закрывавілі і не забрудзілі яе белага чыстага коляру.

Бараніў свой белы коляр беларускі народ тысячагадовымі сьлезамі... І гэтыя сьлёзы ўсё змылі: і бруд і кроў.

Ўрэшце і сьлёз не стала...

Кроўю заплакала Белая Русь!...

І па беламу чыстаму коляру ярка-пунсовы ручэй паструміўся...

Беласьнежны сьцяг з крывавай паласою!

Ці-ж можна не жадаць усім сэрцам памерці пад гэткім сьцягам?

Ці-ж не прышоў час, каб моцна сьціснуўшы той сьцяг, — сымвал крывавых сьлёз нашага народу, — бэзупынна і бэзустанна змагацца за вызваленьне і адраджэньне гэтага народу?

Ці-ж маючы ў руках гэты сьцяг мы не павінны пеяць ўсюды і заўжды:

„Ніколі, ніколі ў сьвеце
„Беларус наш ня будзе рабом!“...

Годзі плакацца на долю! Даволі хадзіць схіліўшы галаву ўніз! Даволі шкоднай няверы ў свае сілы і права!

Дзяды нашы і прадзеды аж зашмат выплакалі крывавых сьлёз і надта доўга і ганебна гнулі свае зьнясільныя плечы...

Беларус! Высока падымі галаву! Глянь!...

Наш бела-крывавы сьцяг лунае па ветру....

І нясе яго Вясна беларускага народу!!

**Бірка.**

**Абразкі з праўдзівага жыцьця.**

# Не падпішуся!...

Гэта было вясной, 1920 г. у Сіняўцы Баранавіцкага павету, Менскай губ., польская аргінізацыя, пад назвай „Страж крэсова“, склікала народны сход. Былі прэдстаўнікі амаль што не ад кожнае вёскі.

Жыхарство ў гэтай ваколіцы рознае, — ёсьць праваслаўныя, але шмат і каталікоў. Сышліся і чакаюць, ось нібы дзіва якога небудзь

Усе маўчаць. За вялікім сталом сядзяць паны, каля дзьвярэй жандары чагосьці стаяць.

Але тут з куль не вазьміся адзін такі, ні то пан, ні то паўпанак, і пачынае казаць прамову і ўсё хваліць сваю Польшчу.

А польшча такая ды гэтакая, а і тое ў Польшчы ёсьць і гэтае, а Польшча вам дапаможа, а Польшча вам дабра уселякага дась...

Здавалася, што нема лепшай і пякнейшай старонкі ва ўсім сьвеці як гэтая Польшча.

— Пятрук, а Пятрук — шэпча Рыгор да свайго суседа — спытайся ты гэтага панічыка, па што ж яны ў нас дабро забіраюць, калі яны такія багатыя? Па што забіраюць — каб пасьля нам аддаваць? Га?

— А па сколькі бізуноў празначыла Польшча на кожнага з нас? — пытае паўголасам другі.

— Ціха, каб вас... — адазваўся Пятрук.

А той усё сваё правіць. Усә кажа і кажа... і так мусіць гадзіны са дзьве. Відаць аж змогся, але не перастае, аж са скуры сваей лезе, аж спацеў, а усё такі сваё правіць. Заўзяты відаць.

Селянам ужо нават і напрыкрыла яго слухаць, а ён усе кажа.

І нарэшці так закончыў ён сваю доўгую прамову:

— Ну а цяперака будзем галасаваць вось гэту рэзалюцыю. — Хто за далучэньне да Польшчы, падыміця рукі. —

Маўчаць селяне, ніхто не падымае сваей рукі. Ён і другі раз:

Хто за тое, каб у нашым краі былі парадкі, як у Польшчы, каб был белая мука, соль, карасіна — нехай падыме руку.

...Каб былі турмы, бізуны, каб была паншчына і ў прыгон нас ганялі каб нас рабавалі і забівалі... — дабавіў ціхім голасам Сьцепан. —

— Маўчы, каб це паляруш! — агрызнуўся са злосьцю Пятрук і вачамі паказаў на жандараў — ці хочыш каб нас усіх у у турму насадзілі?

Селяне пераглянуліся паміж сябе. Ніхто не падымае рукі.

Тагды той панічык ізноў:

— А мо хто небудзь хоча выказацца, нехай папросіць вось гэтага пана голас — паказаў ён пры гэтым на другога пана, што сядзеў на крэсьле за сталом.

Гэты пан быў вядомы селянам, тутэйшы землеўласьнік. Селяне і зноў маўчаць, толькі цясьней неяк адзін да аднаго прытуліліся і ждуць чагосьці надзвычайнага.

Паны нездаволена агледзілі ўсіх, а селяне і струхнулі ўжо крыху.

Хто ведае, што можа стацца. Вось ня мелі бяды. Каб ведалі, нізашто-б не пайшлі на гэты паганы сход. Ды як тут пасупіць супроць начальства? А пады-

меш сваю руку за далучэньне, дык з вёскі прагоняць, жыцьця табе ніякага не дадуць. І так кепска і так блага.

Гэтак пан будзе гневацца, а інакш свае людзі пакрыўдзяцца.

Рабі тут што хочаш.

Сцепан колькі разоў памыкаўся ўстаць і сказаць сваё слова, але Пятрук моцна трымаў яго за паліну і два разы такую сойку цішком даў яму ў бок, што той чуць дух зславіў. Паглядзеў сярдзіта на Пятрука, але не пасьмеў больш паднімацца.

У самым куце сядзеў стары дзед Сымон. Праз увесь час ён гладзіў рукой сваю сівую бараду і зьвесіўшы галаву упарта глядзеў на свой растоптаны лапаць. Пасьля апошніх слоў панскага прамоўцы, ён падняў галаву, агледзіў усіх кругом і ўстаўшы са свайго мейсца азваўся:

— Калі вы ўсе такія дурні, то я скажу.

Паны аж зрадзелі. Яны зналі, што Сымон каталік і вельмі набожны, часта бываў у ксяндза, чытаў крыху па польску і дзеля таго спадзеваліся, што ён скажа акурат тое, што ім было патрэбна.

— Хадзі сюды, наперад стань, каб усе чулі што будзеш ты казаць — папрасілі яго паны. Ён моўчкі пайшоў.

— А як тваё прозвішча — пыталіся яго.

— Шпак — адказывае дзед.

— Ну кажы, Шпак, цяпер тваё слова.

Сымон стаў перад усей грамадой, прыцiснуў да грудзей сваю шапку, памаўчаў крыху, неяк жаласна паглядзеў на ўсіх, а пасьля раптам павярнуўся да паноў, што заседалі ля стала і голасна сказаў:

— Нехай будзе Іезус пахвалёны.

Паны ўсьмехаючыся кіўнылі галавой і прабарматалі пад нос „на векі“.

— У імя Айца і Сына і Духа Сьвятога... перэжагнаўся старык.

Тут Сьцепан зноў ня выдзержаў і буркнуў: „Здурнеў дзед. Ксяндзом хоча быць, пачынае гаварыць казаньне“.

— Паночкі вы мае! — правіў далей Сымон — сягоньня я быў у споведзі. Ачысціў сваю душу перад Богам. Цяпер вось перэжагнаўся і гатоў на сьмерць. Рабіце са мной што хочыце... страляйце мяне — вешайце, а я-такі сваей рукі не падыму... не прадам сваей душы за соль ды за муку. Не падпішуся за далучэньне да Польшчы... — сказаўшы гэта ён паглядзеў спакойна на паноў, а пасьля на селян, суседзяў сваіх.

Паны ня ведалі што рабіць. А селяне ўсе паўставалі са сваіх мейсц і голасна загаманілі:

— І мы не падпішымся. Ня хочамо далучацца да Польшчы!... мы Беларусы!... — і абступілі кругом Сымона.

Паны маўчалі. —

А Сымон голасна тагды зьвярнуўся да селян:

— Знача ніхто ня хоча далучацца да Польшчы?...

— Ніхто!... загаманіла грамада. — Мы Беларусы!...

— Нехай жыве Беларусь! — крыкнуў Сьцепан.

— Нехай жыве вольная Беларусь. — Як з адных грудзей выврваўся магутны гук.

Паны сканфужана пакінулі сход, а селяне разыйшліся хто куды па сваіх вёсках. Доўга потым гутарылі аб адвазе Сымона.

**Мілош.**

---

**Не аддавайце зямлю польскім грабежнікам!**

# Каралю Сярэдня - Літоўскі, генэрале Жэлігоўскі, радуйся!

Радуйся, дзьве губэрніі няпольскія, два народы безбаронныя безслаўна пакарыўшы, — ваявода „вялікі“, радуйся!

Радуйся, карыдор Вільня-Дзьвінскі утварыўшы, радуйся турму сярэдня-літоўскую збудаваўшы, — назірацель карыдорны, архітэктар варшаўскі, радуйся!

Радуйся, авантурна-жандарскую дзержаву „Жэліговію“ стварыўшы, — кароль без народу, прэзыдент жандарскі, радуйся!

Радуйся, пыткі старадаўнія па турмах уваскрасіўшы, радуйся гвалт і зьдзек благаславіўшы — Мураўёў ты польскі, радуйся!

Радуйся народ беларускі на крыжу распяўшы, Пілат Эўрапейскій, радуйся!

Радуйся школ беларускіх, літоўскіх, жыдоўскіх зачыненьне, радуйся польскіх турм і лагераў напаўненьне, радуйся вучыцеляў беларускіх катаваньне, радуйся коопэратываў беларускіх конфіскацыя, радуйся з чырвоным цукрам махінацыя, кат народу працоўнага, радуйся!

Радуйся Эўропе вачэй зацямненьне, радуйся кантрольнай камісіі абмыленьне, радуйся віленскімі яйкамі кіданьне, радуйся віленскага дыма без агня варшаўскага пусканьне — кудзесьніку злыдны, радуйся!

Радуйся сэйму варшаўскага жывёла паслушная, радуйся „піль-сюды“ пачуўшая і Вільню зхапіўшая, — радуйся жаўнераў адурачаных начальнік — радуйся!

Радуйся бедных вёсак абіраньне, радуйся лесу беларускага высінаньне, радуйся жабракоў рабаваньне і польскай валюты ратаваньне, радуйся рэквізыцый і лапувак расквітаньне — люду селянскага горб, радуйся!

Радуйся ксяндзоў Маціевічаў прамоўкі, з беларусаў у палякоў перафарбоўкі, верою сьвятой ганебная гандлёўка — радуйся!

Радуйся беларускіх прытулкаў галаданьне, радуйся амэрыканскага сала паяданьне, радуйся панскіх жыватоў баляваньне, — грунт і абарона апэтытаў польскіх, пан Жэлігоўскі, радуйся!

Радуйся над Вільняю панаваньне, радуйся голасу народа — плебісцыту палахлівае чэканьне — брудная заноза у целе літоўскім, генэрал Жэлігоўскі, радуйся!

Радуйся рыжскай умовы утварэньне, радуйся Беларусі папалам разьдзяленьне, радуйся Домбскага з Іоффэ цалаваньне — Каіне народу беларускага, радуйся!

Радуйся новую нацыю сярэдня-літоўскую адкрыўшый, радуйся Віленшчыну да Польшчы прылучыўшый, радуйся да Бруссэльскіх перагавораў Лігу Нацый дакруціўшый — каралю сярэдня-літоўскі, генэрале Жэлігоўскі, радуйся!...

— —

**Вон зьдзірцаў! Вон гвалтаўнікоў!**

# „Падавайце голас за Сярэднюю Літву“.

Падавайце голас за „Сярэднюю Літву“ усе, хто шчыра і заўзята ненавідзіць беларускі і літоўскі народ.

Хутчэй падавайце свой галас за „Сярэднюю Літву“ усе, хто ня можа дачакацца, калі засьвішчыць бізун польскага пана над каркам літоўскага і беларускага селянства.

Усе, каму надта хочыцца як найхутчэй зрабіцца „быдлам працоўным“ польскіх абшарнікаў — спешайцеся падаваць свой голас за „Сярэднюю Літву“.

Усе тыя, каму вельмі прыемна глядзець на жахлівае цярпеньня беларускага народу, усе тыя, — каму весёлай музыкай здаецца неупынны плач паміраючых з голаду беларускіх дзетак, усе тыя — каму сьмешна і радасна ад жудасных стогнаў беларускіх уцекачоў, якія вар'яцеюць ад нячуванай бядоты, — усе тыя, каму прыемны зьдзекі і гвалт польскіх чыноўнікаў і жандараў — усе вы, так сама падайце свой голас за „Сярэднюю Літву“.

Спяшайцеся падаць свой голас — усе вы, хто цешыцца як палякі зачыняюць беларускія школы, як польская паліцыя зачыняе беларускія коопэратывы і канфіскуе тавары, усе вы, хто цешыцца як палякі гнояць у турмах ды лагерах і насьмерць забіваюць лепшых сыноў беларускага народу, усе вы хто надта цешыцца калі жандары Жэлігоўскага б'юць у збалелыя грудзі беларускую кабету і ганьбяць беларускіх дзяўчат — усе вы падавайце свой голас за „Сярэднюю Літву“.

Хутчэй сьпяшайцеся падаць свой голас за „Сярэднюю Літву“ усе вы, каму люба глядзець, як паляцца беларускія вёскі, як нішчыцца беларускае народнае дабро; усе вы, каму прыемна чуць стогны бязвінных ахвяр, што мучаюцца у дэфэнзывах крывавага ката гэнэрала Жэлігоўскага; — усе вы, хто проці зямлі і волі, хто за перадачу ўсей зямлі польскім панам, хто за безладзьдзе, голад, холад і нуду, хто стаіць за тое, каб былі хваробы, пошасьць і мор.

Усе вы здраднікі працоўнага народу — усе падлыжнікі, ды служкі лапчывых польскіх паноў, усе вы заклятыя ворагі беларускай і літоўскай незалежнасьці, усе вы, хто крыжом і малітвай, — усе вы, хто грашыма і ашуканствам,—усе вы хто гвалтам і правакацыей, — усе вы хто прымусам і нагайкай, — усе вы, хто турмамі, штыком ды кулямётам, — хто кроўю і жалезам, хочуць задушыць адраджэньне Беларусі, — усе вы, хто чарту запрадаў сваю душу, — усе вы як мага хутчэй падавайце свой голас за „Сярэднюю Літву“.

— —

## Вон польскіх акупантаў з роднага краю.

# БЕЛАРУСКІЯ СПРАВЫ

## Беларуская Нацыанальная Сувязь.

Беларуская Нацыанальная Сувязь, пачаўшы істнаваць яшчэ у 1918 гаду, панавіла сваю чыннасьць.

Мэты сувязі найбольш цесная і пэўная арганізацыя беларускага грамадзянства, — аб'еднаньне па магчымасьці ўсіх беларускіх культурна-палітычных арганізацый і стварэньне адзінага фронту ўсіх актыўных беларускіх сіл у змаганьні за правы і дабрабыт Беларускага народу, за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі.

Ядро гэтай беларускай грамадзкай арганізацыі — Раду Беларускай Нацыанальнай Сувязі у сучасны момэнт пастаноўлена трымаць за межамі асягненьня акупацыйнай улады на Беларусі.

У склад Рады уваходзяць прэдстаўнікі цэнтральных камітэтаў Беларускіх партый, прэдстаўнікі краёвых беларускіх арганізацый.

Аддзелы Беларускай Нацыанальнай Сувязі закладаюцца на бацькаўшчыне.

Яны павінны быць патаемны ад акупацыйнай улады. Кожны аддзел, у сваей працы на абшарах бацькаўшчыны, на якіх раскінуты аб'еднанныя ім арганізацыі, карыстаецца свабодай у сваей працы.

У такіх выступленьнях, якія могуць адчувацца і такі або іншы мець уплыў на палітычныя справы ўсей бацькаўшчыны, або выходзяць за абшары аддзелу, — апошні павінен кіравацца інструкцыямі Рады Сувязі.

Гэтыя інструкцыі такія:

Рада Беларускай Нацыанальнай Сувязі лічыць, што найбольшая небясьпека, пагражаючая як справе беларускага нацыянальна-дзержаўнага адраджэньня, так і дабрабыту беларускіх працоўных мас, ідзець з боку Польшчы.

Усе жывыя актыўныя беларускія сілы павінны быць скіраваны на змаганьне супроць польскай акупацыйнай улады на Беларусі.

Там, дзе ўжо істнуюць беларускія арганізацыі, можна закладаць, патаемна ад акупацыйнай улады, аддзелы Сувязі, не чакаючы інструктароў Рады.

Праз пэўных людзей аб гэтым павядамляць Раду Сувязі, — указаць якія арганізацыі уваходзяць у аддзел,

або які павет і абшар бацькаўшчыны падлягае чыннасьці аддзела. Рада Сувязі разгледзіўшы і перэканаўшыся у тым, што да аддзелу не прысталі шкодныя здрадніцкія для Беларускага народу элементы зарэгіструе аддзел, — дасьць яму печатку, літэратуру паінфармуе аб беспасрэдняй зьвязі і чарговых заданьнях.

Аб адрэсе Рады Беларускай Нацыанальнай Сувязі даведывацца у пэўных беларускіх дзеячоў.

—о—

## Беларускае Таварыства Чырвонага Крыжа.

15—25 красавіка 1921 году адбыўся ў Коўні (Літва) першы арганізацыйны сход Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжа. На гэтым сходзе быў апрацован і прынят „Статут“ Таварыства.

Згодна стату, мэтаю Беларускага Чырвонага Крыжа яўляецца: 1) як найшырэйшая матэрыяльная і маральная дапамога ў першы чарод усім беларускім грамадзянам, незалежна ад іх нацыанальнасьці і веры, і пацярпеўшым ад вайны, недародаў, пажараў, пошасьцяў і інш. напасьцяў; 2) дапамога беларускім грамадзянам, знаходзячымся у палоні, у турмах, бядную<br>ючым беларускім эмігрантам і 3) наагул усім беларускім грамадзянам, патрабуючым гэтай дапамогі.

Т-ва так сама ставіць сабе мэтай у меру павялічаньня яго фундушаў і сфэры чыннасьці, такую-ж дапамогу ўсім бяз вынятку бяднуючым грамадзянам іншых дзяржаў, дзе яна будзе патрэбна і магчыма.

2) У круг чыннасьці Т-ва уходзіць шырокая арганізацыя дапамогі дзецям.

3) У сваей чыннасьці Таварыства мае права закладаць выдавецтва патрэбнай яму літэратуры дзеля павялічэньня сваіх фундушаў.

У часе вайны чыннасьць Таварыства выяўляецца: 1) У мэдыцынска-санітарнай дапамозе фронту — а) арганізацыі і абарудаваньні уласных франтавых перавязачных і харчовых атрадаў, лазарэтаў, санітарных цягнікоў і параходаў, лазен, пральняў і інш.; б) абарудаваньні тылавых харчовых пунктаў, шпіталяў, прытулкаў і санаторыяў для інвалідаў; в) дапамога вайскова-санітарнаму ведамства у сэнсі пастачы вайскова-лекарскіх установ мэдыцынскім са-

нітарным пэрсаналам і папаўненьне інвентара гэтых устаноў; г) учасьце у эвакуацыі хворых і раненых з фронту і далейшая апека над імі. 2) У мэдыка-санітарнай і матэрыяльнай дапамозе беларускім вайскова-палонным (дастаўцы пасылак і лістоў на Бацькаўшчыну).

Статут Беларускага Чырвонага Крыжа зацьвержаны Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі. На гэтых днях пасылаецца павядамленьне ў Жэневу (Швэйцарыя) да Цэнтральнаго Міжнарадовага Камітэту Чырвонага Крыжа аб тым, каб беларускі Чырвоны Крыж быў зарэгістрован тамака і такім чынам атрымаў усе правы межнарадовай гуманітарнай арганізацыі.

Працу сваю Беларускі Чырвоны Крыж толькі пачынае.

Галоўная перашкода таму, каб шырока арганізаваць помач сваім грамадзянам — гэта малая лічба грошы.

Але гэта часова і як толькі Беларускі Чырвоны Крыж павялічыць свае сьродкі — у першы чарод будзе арганізавана помач беларускім грамадзянам знаходзячымся у польскіх турмах, лагерах і так сама бядную чым беларускім селянам-уцекачом, вертаючымся на Бацькаўшчыну.

## Аб Беларускіх установах ды арганізацыях за граніцай.

Нас паведамляюць, што за граніцай шмат ёсьць беларускіх урадавых устаноў, ёсьць і прыватныя грамадзкія, культурна-прасьветныя, выдавецкія ды іншыя арганізацыі.

**У ЛІТВЕ:**

Есьць Міністэрство Беларускіх Спраў пры Літоўскім урадзе. На чале гэтага Міністэрства стаіць вядомы грамадзкі дзеяч Дамінік Семашко. Міністэрство клапаціцца аб паляпшэньні быту беларусаў, што жывуць у межах літоўскай Рэспублікі.

Пры Міністэрстве істнуе:

Стол друку,

Юрысконсульт, які дае парады беларусам,

Стол Культарна-Прасьветны,

Беларускі Асобны Баталіон, які бароніць беларускія вёскі ад ворагаў,

Беларускі прасьветны аддзел для салдат пры Гэнэральным Штабе,

Беларускі аддзел вайсковага музея.

У Коўні ёсьць так сама Паўнамоцнае Прэдстаўніцтво Ураду Б.Н.Р. якое выдае беларускія паспарты бежанцам Беларусі і клапаціцца аб іх долі.

Ёсьць і грамадзкія установы:

Беларуская Грамада ў Коўні, якая аб'еднае ўсіх сьвядомых беларусаў, што жывуць у Коўні, арганізуе лекцыі, бібліатэку, клюб з дабрачыннымі мэтамі, Бюро працы, дае соцыяльную дапамогу.

Выдавецкае „Таварыства імя: Францішка Скарыны“. Гэтае выдавецтва ладзіць выданьне рожных беларускіх кніг, школьных падручнікаў.

Беларускае Прэс-Бюро, якое выдае бюлецені і разсылае іх па ўсяму сьвету. Ва ўсіх гэных бюлеценях падробна апісываецца жыцьцё беларусаў пад польскае акупацыей.

### У ЛАТВІІ:

У Рызе — Рада Беларускай Калёніі у Латвіі, а так сама Аддзел і Клюб беларускага таварыства „Бацькаўшчына“. Аддзел т-ва „Бацькаўшчына“ ёсьць і ў Дзьвінску.

### У ЭСТОНІІ:

У Рэвялі — Поўнамоцнае Прэдстаўніцтво Ураду Б. Н. Р.

### У НЯМЕЧЧЫНЕ:

У Бэрліне знаходзяцца такія беларускія установы: Поўнамоцнае Прэдстаўніцтво Ураду Б. Н. Р.

З мэтай барацьбы за нацыянальна-культурнае, эканамічнае і дзержаўнае адраджэньне Беларусі, залажылася (часова ў Бэрліне) грамадзкае выдавецкае Таварыство „Вызваленьне“. Установа гэта не гандлёвая: ўсе прыбыткі яе йдуць на павялічаньне выдавецкага фонду, а так сама на дадамогу беларускім пісьменьнікам (§ 2 Статуту, Пратак. 10. IX. 20. г.).

Беларуская Грамада у Бэрліне.

Беларускае Прэс-Бюро, якое так сама, як і Ковенскае разсылае бюлецені ва ўсе газэты.

### У ФРАНЦЫІ:

У Парыжы — Поўнамоцнае Прэдстаўніцтво Ураду Б. Н. Р.

### У ЧЭХА-СЛАВАЧЫНЕ:

Поўнамоцнае Прэдстаўніцтво Ураду Б. Н. Р.

Ёсьць у іншых дзержавах правамоцныя прэдстаўніцтвы ураду Б. Н. Р. Усе яны моцна стаяць разам з урадам за нежалежнасьць Вольнай Беларусі і бароняць правы беларускага народу.

У апошні час заварушыліся беларусы і ў Амэрыцы, у Чыкаго і ў Нью-Іорку арганізаваліся ўжо беларускія нацыянальныя камітэты.

Сьвядомасьць шпарка пашыраецца.

Дык няхай ведаюць нашы селяне, што ў сваім змаганьні яны не адны, а што ёсьць шмат за граніцай людзей, якія так сама, змагаюцца за лепшую, сьветлую долю нашай старонкі.

---

## Аб Беларускіх арганізацыях у краі

### У ВІЛЬНІ:

Рэдакцыя газэты „Наша Думка“, Вострабрамская 9, цана аднаго нумара „Нашай Думкі“ 10 марак. Падпіска на 3 месяцы 150 мар.

Беларускі Нацыянальны Камітэт, Вільня, Вострабрамская 9, пакой 5. Старшыня Фабіян Ярэміч. Сэкрэтар Біруковіч. Камітэт адчынены штодня, апроч сьвят, ад 11 да 2 гадзіны. Паседжаньні пленуму у панядзелкі ад 6 гадзіны.

Юрыдычны Адзел Б. Н. К. адчынены ад 11 да 2 гадзіны ў дзень. Прыймаецца складаньне просьбау і заяў у беларускай і польскай мове і кіраваньне розными юрыдычнымі справамі. Бедным рада дарма. Дзеля працы ў аддзеле запрошаны спрактыкаваныя юрысты.

Інструктарскі Аддзел Б. Н. К. пасылаець інструктароў на правінцыю, памагае арганізацыям радай, коштамі, літэратураю. Загадчык А. Карабач.

Беларуская Школьная Рада, Вільня, Вострабрамская 9. Старшыня М. Кахановіч, сэкрэтар А. Луцкевіч. Клапоціцца аб беларускіх школах і наагул аб справах беларускае асьветы. Памагае радай, коштамі і кнігамі.

Беларускае Выдавецкае Т-ва выдае ўсялякія кніжкі ў беларускай мове. Сябраў прыймае Урад Т-ва. Уступная плата—50 м., сяброўская гадавая складка 100 м. Адрэс Т-ва Вільня, Віленская вул. № 33, кв. 1 (адчынена ад 4 да 5 гадз. у дзень). Старшыня М. Гарэцкі, сэкрэтар А. Луцкевіч.

Беларуская Кнігарня Беларускага Выдавецкага Таварыства, Вільня, Завальная, 7. Прадаюцца усялякія кнігі, падручнікі для пачаткавых школ і гімназій, поўныя зборы твораў беларускіх клясыкаў, сцэнічныя творы, песьні з нотамі, газэты і розныя пісьменныя матар'ялы (сшыткі, алаўкі, пёры і шмат інш.). Прыймаюцца заказы ад школ і культурнаасьветных арганізацый па самай сходнай цане. Каталёгі высылаюцца дарма.

Коопэратыўная Друкарня „Друк“, Вільня, Вострабрамская, 5, (Пасаж) прыймае усялякія беларускія і іншыя заказы.

Беларускі Школьны Аддзел пры дэпартамэнту асьветы. Вільня, Каўкаская вуліца (рог Вялікай Пагулянкі), 2, другі паверх, налева, пакой № 13. Рэфэрэнт Б. Тарашкевіч.

Першая Віленская Беларуская Гімназія (для хлопцаў і дзяўчат), Вільня, Вострабрамская, 9. Дырэктар М. Кахановіч, інспэктар А. Дмахоўскі. Гімназія ў складзе 8 аснаўных (ёсьць паралельныя і 2 прыгатавальных клясаў, з інтэрнатам пры ёй. Навука ў гімназіі даступна для самых незаможных дзяцей. Лепшыя вучні з пачатковых беларускіх школ маюць магчымасьць пастуціць у гімназію і вучыцца ў ёй зусім дарма. Скончыўшыя гімназію ў 1920 г. вучацца цяпер ў Віленскім унівэрсітэтце і ў вышэйшых школах заграніцай.

Беларускія пачаткавыя школы ў Вільні. 1) Кальварыйская, 73. 2) Лідзкі тракт, могільнік. 3) Радунская 27-а. 4) Зарэчча, Панамарская, 12. 5) Аранбурскаа вуліца. 6) Антокаль. 7) Пры Беларускай гімназіі. Навука бясплатная. У кожнай школе даецца дзяцём сьнеданьне, а бяднейшым—вопратка.

Цэнтральная Рада Беларускага Вучыцельскаго Саюзу. К-нц. 1-й Віленск. Бел. Бімн., Вільня Вострабрамская, 9.

**Ня трэба нам польскіх панска-шляхэцкіх парадкаў!**

Першая Горадзенская Беларуская Гімназія (для хлопцаў і дзяўчат). Ёсьць вакансіі ўва ўсіх клясах. Горадня, вул. Ожэшковай, № 28. Дырэктар М. Мараўская, інспэктар А. Тамашчык.

Беларуская вучыцельская сэмінарыя ў Барунах. Дырэктар С. Рак-Міхайлоўскі. Адрэс: м. Баруны Віленск. г.

Беларуская гімназія ў Гарадку Вялейскага павета, Віленскае губэрні. Дырэктар Тышкевіч.

Алёна Сакалова — беларуская прадстаўніца у Амэрыканскім Камітэце Помачы дзяцём, Вільня, Вострабрамская, 9, пакой № 16, прымае ад 3 да 4 гадз.

Прытулак Камітэта помачы, Вільня, Востраброамская, 9, (будынак гімназіі), Загадчыца Л. Васілевіч.

Беларускі коопэратыў „Райніца", Вільня, Вялікая Пагулянка, 17.

Віленскі Саюз Коопэратываў, Малая Пагулянка, д. № 12.

Грамадз. Сабраньне Белар. Музыкальна - Драматычн. Гуртка, Біскупская 12.

„Krynica" biełaruskaja tydniowaja hazeta. Redakc. i administracyja: Zawalnaja wul. 7; ad 9—6. „Krynica" kaštuje: na hod. 300 mk., na paŭhoda 150 mk., na 3 miesiacy 75 mk., asobny numar 5 mk.

„Маладое жыцьцё" — часопісь беларускай вучнёўскай моладзі — Вільня Востраброамская, 9.

(Інформацыі азяты з газ. „Наша Думка").

Але ёсьць у Вільні і польска-панскі байструк, так званая „Краёвая Сувязь", якая выдае газэту ў беларускай мове.

Гэтая „Краёвая Сувязь", заклікае беларускі народ да еднасьці, Але з кім еднацца? З лапчывымі панамі польскімі? Аўжо-ж, у газэце іхняй так і сказана чорным па беламу там сказана, каб беларускія селяне едналіся з польскімі панамі, Ды ня ўжо яны учадзілі, ці мо п'яныя былі, калі гэтак пісалі. Дзе-ж гэта відана, каб можна было ваўка пагадзіць з авечкай. А тут яшчэ кажуць табе аб еднасьці. Але, гэткага дзіва яшчэ ніколі ня было. Яго ніколі і ня будзе. А тое, што пішуць найміты ды падлыжнікі панскія, то ведама гэта ёсьць чарговая іх хітрасьць, каб як найлепей ашукаць нашага прастака брата. Яны так сабе разважаюць: „удасца — добра, а калі не, то што-ж іншым спосабам спрабуем". Вось яны і круцяць ва ўсе бакі.

А мы ім адно толькі скажамо круці ні вярці, а прыдзецца памярці. Старога вераб'я на мякіне не зловіш, не ашукаеш. Мы даволі ўжо наглядзеліся на усе вашыя парадкі. Ведаем вашую панскую натуру. Добра ведаем што да чаго. У нас ёсьць свае арганізацыі, а панскіх нам ня трэба, тым больш нейкіх тамбайструкоў яшчэ прыдумалі. На што нам яны? На якое ліха?

Але гэта яшчэ ня усё. Яны і рэзалюцыі нават нейкія там прыдумалі ды і надрукавалі іх у сваей газэце.

Ведама бываюць такія здарэньні з людзьмі, што вум за розум часамі заходзіць, як той казаў.

Так і ў іх відаць гэткае самае здарэньне сталася. Бо толькі зусім бязглуздыя могуць казаць, што беларускаму на-

роду надта добра жывецца пад польска-панскай акупацыяй і што Беларусь павінна. аб'еднацца з Польшчай.

А калі не бязгуздыя, то шэльмы ці Хрыста-прадаўцы, або здраднікі.

Нехай яны пакажуць хоць аднаго селяніна, які не атрымаў ад польскіх акупантаў па карку, бізуна. Дый што казаць, — хто не бачыць нігдзе нячуванага польскага гвалту над беларускім народам, хто не бачыць, як польскія паны грабуюць беларускае народнае дабро, усе гэта бачаць, усе разумеюць... душа разрываецца ад гэтакай несправядлівасьці... Але да пары жбан ваду носіць, да пары народ наш маўчыць, а прыдзе час, калі ён голасна змагоніць аб сваіх правох. Вось што.

З польскімі панамі народ наш не пайшоў і ніколі ня пойдзе разам, бо не падарозе. Ня пойдзе і на ашуканствы іхнія.

Даволі брахні! Даволі маніць! Усё роўна нічога з гэтага ня выйдзе.

---

## ЗДРАДНІКІ.

Як мы даведаліся, глаўным удахнавіцелям „Краёвай Сувязі“ у Вільні з'яўляецца ня Пупка, як аб гэтым казалі, а пан Паўла Алексюк.

**Але хто такі ёсьць Паула Алексюк?**

Перш за усё мы ведаем, што Паўла Алексюк, яшчэ у бытнасьць сваю у Петраградзе, калі ён быў сябром беларускага студэнскага гуртка, то ён скруціў некалькі сот рублёў грамадзкіх грошай, што належалі студэнскаму гуртку, як сяброўскія складкі. Ён проста уцёк з гэтымі грашыма, а калі яго спаткалі неяк (ён тагды вельмі добра прыадзеўся) і запыталіся чаму ён так зрабіў—ён проста адказаў:

„Раней я хачу зрабіць сабе добрую кар'еру, а пасьля буду займацца беларускай справай“.

У часе вайны ён быў чыноўнікам у Земсаюзе і стараўся там зрабіць сабе кар'еру але нешта не ўдачна, нічога ня выйшла.

Пасьля рэвалюцыі 1917 г. Паўла Алексюк ня ведаў да якой бы яму найляпей было прыстаць партыі. Рашыў назвацца народным соцыялістам.

Дурачыў старую княгіню Радзівіліху выманіваў ад яе грошы, нібы для беларускай справы, на падтрыманьне беларускага прытулку у Менску, Вайсковай Рады і г. д.—але ніхто гэтых грошай не бачыў апрача самаго Паўла Алексюка.

Дагадаўшыся аб гэтым, Вайсковая Беларуская Рада выключыла яго з свайго складу. Але Паўлу Алексюку гэта не пачом. Ён далей прадаўжаў занімацца шантажом ды спэкуляцыей на адраджэнскім руху Беларусі.

У Горадні падчас нямецкай акупацыі ён чуць—чуць не стаўся бальшавіком, але быў назначаны павятовым камісаром ад літоўскага ураду ашуканскім спосабам браў пэнсію за некалькіх чалавек.

А калі прыйшлі палякі, то ён адразу перакінўся да іх.

Усім добра ведама яго авантура з „Беларускім кангрэсам у Вільні 1919 г.“ А калі гэта не ўдалося, то ён выдаў польскай дэфэнзыве некалькі беларускіх дзеячоў, — увайшоў у ласку польскіх паноў і стаў на чале так званай „Бела-

рускай Вайсковай Камісіі“. Атрымаў грошы ад польскага ўраду на фармаваньне беларускага войска, але са спакойным сумленьнем палажыў іх у свой кішэнь. Усе дзівіліся, чаму гэта ня йдзе ўпярод справа беларускага вайсковага фармаваньня і ніхто не атрымлівае пэнсіі — але потым усё раскрылася: Паўла Алексюк прысвоіў сабе 600,000 марак.

Навэт быў заарыштованы польскім урадам і пасаджаны ў турму, як звычайны злодзі. Але Балаховіч яго выратаваў. Ведама свой свайго пазнаў і на піва пазваў. Балаховіч ўзяў яго на парукі к сабе.

А калі Балаховіч, пад Мозырам быў разьбіты, Паўла Алексюк ізноў кінуўся да польскіх паноў, кланяецца і божыцца, што ён заваюе і далучыць да Польшчы, ўсю Беларусь, а што патрэбны толькі грошы.

Ці будзе што, ці не, але чаму не спрабаваць?

Абшарнікі польскія даюць яму грошы закладаюць Краёвую Сувязь у Вільні, муцяць ваду ў чыстай крыніцы беларускаго высвабадзіцельна-адраджэнскага руху

Дык вось, нехай ведае беларускае селянства, хто такі ёсьць Паўла Алексюк. Ён звычайны злодзей, найміт — польскіх паноў.

**А хто такі Бацька Булак-Балаховіч.**

Аб гэтым ґэрою мы адно толькі скажам: смачны жабе гарэх, але зубоў толькі Бог ёй не даў.

Балаховіч стаў генэралам у рускай арміі Юдэніча. Ён праславіўся нялюдзкімі зьверствамі пры ўзяцьці Пскова. А калі армія Юдэніча развалілася, то ён адразу перэвярнуўся на беларуса, паехау у Польшчу і пры дапамозе польска-панскага ўраду зарганізаваў адну дывізію войска і разам з палякамі ваяваў проці большавікоў.

У восень 1920 г. паміж палякамі і бальшавікамі наступіла замірэньне. Тагды Балаховіч у саюзе з Савінкавым пачалі на свой рыск ваеваць з бальшавікамі, Ўласне тагды і Паўла Алексюка да сябе прыгарнулі. Балаховіч назваў сябе глаўным начальнікам усіх беларускіх паўстанцаў, абвясьціў „ворагамі беларускага народу“ законны беларускі Урад.

Ён ва што бы то ні стала хацеў астаць начальнікам беларускай дзержавы пасьля апіраючыся на Беларусь ісьці, далей на Маскву.

Спадзеваўся выкарыстаць беларускі адраджэнскі рух для сваіх чорных ганебных мэтаў. Але не ўдалося.

Праславіўся ён пад Мозырам і Пінскам у мінулым годзе жыдоўскімі пагромамі ды грабежствамі.

Цяпер ён сядзіць у Варшаве пад скрыдламі польскіх абшарнікаў і не пакінуў яшчэ сваіх думак аб новых авантурах.

Але нехай ведае беларускае селянства, што гэта за птушка.

Нехай будзе асьцярожным, нехай памялом агэнтаў яго праганяе.

**Вон польскіх каланістаў!**

# ЗЬМЕСТ № 1.


| | | | стр. |
|---|---|---|---|
| 1. | **Перадавіца** — | . . . . . . . . . . . . . . . | 1. |
| 2. | ПАДДУБІЧ. — | Нехай жыве вольная незалежная Беларусь . . . . . . . . . . . | 3. |
| 3. | Т. ГЛЕБА.— — | Чаго прышлі лапчывыя польскія паны на Беларусь . . . . . . . | 6. |
| 4. | | **Зямельная справа:** | |
| | І. К.— — — — | Утварэньне на Беларусі новае польскае вайсковае шляхты . . . . . | 9. |
| | І. КОРЭНЬ — | Калі і хто дасьць беларускім селянам зямлю . . . . . . . . . . . | 11. |
| 5. | ПАУЛІНКА. — | Селянская доля (вершам) . . . : | 13. |
| 6. | БІРКА.— — — | Пад сьцяг . . . . . . . . . . . | 18. |
| 7. | | **Абразкі з праўдзівага жыцьця.** | |
| | МІЛОШ. — — | Не падпішуся . . . . . . . . . | 20. |
| 8. | — — — — — — | Каралю Сярэдня-Літоускі, генэрале Жэлігоускі, радуйся . . . . . . . | 22. |
| 9. | — — — — — — | Падавайце голас за Сярэднюю Літву. | 23. |
| 10. | | **Беларускія справы:** | |
| | | Беларуская Нацыанальная Сувязь . . | 24. |
| | | Беларускае Таварыства Чырвонага Крыжа . . . . . . . . . . . . | 25. |
| | | Аб беларускіх установах ды арганізацыях за граніцай . . . . . . . | 26. |
| | | Аб беларускіх арганізацыях у краі . | 27. |
| 11. | | **Здрадінкі:** | |
| | | Хто такі Паўла Алексюк . . . . | 30. |
| | | Хто такі Бацька Булак-Балаховіч . | 31. |



Выдавец: Сувязь Беларускага Працоўнага Селянства.
Рэдактар: Рэдакцыйная Камісія.